*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 28 (465) 19 ЛІПЕНЯ 2000 г.

## Дарагія сябры "Нашага слова"!

Сёння мы паведамляем вам вынікі падпісной кампаніі на трэці квартал 2000 года. У трэцім квартале з падпісной кампаніі выпала нашае слаўнае студэнцтва. Таму колькасць падпісчыкаў рэзка зменшылася. Разам з тым мы маем, як сцвярджае Старшыня ТБМ, 7000 сяброў і 10 000 прыхільнікаў ТБМ. Значыць, прычына ў іншым. Або гэтыя сябры фармальныя, або трэба нешта каардынальна мяняць з газетай.

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 32 | 22 |
| Бяроза р.в. | 9 | 5 |
| Белаазёрск р.в. | - | 1 |
| Бярэсце гор. | 46 | 33 |
| Ганцавічы р.в. | 2 | 1 |
| Драгічын р.в. | 3 | 2 |
| Жабінка р.в. | 1 | - |
| Іванава р.в. | 3 | - |
| Івацэвічы р.в. | 6 | 1 |
| Камянец р.в. | 28 | 7 |
| Кобрын гор. | 16 | 13 |
| Лунінец гор. | 7 | 3 |
| Ляхавічы р.в. | 3 | 1 |
| Маларыта р.в. | 2 | - |
| Пінск гор. | 64 | 57 |
| Пружаны р.в. | 7 | 3 |
| Столін р.в. | 5 | 4 |
| **Усяго:** | **234** | **153** |
| **Віцебская вобласць** | | |
| Бешанковічы р.в. | 18 | 3 |
| Браслаў р.в. | 1 | 1 |
| Віцебск гор. | 29 | 21 |
| Віцебск РВПС | 3 | 1 |
| Верхнедзвінск р.в | 23 | - |
| Глыбокае р.в. | 10 | 4 |
| Гарадок р.в. | 3 | 3 |
| Докшыцы р.в. | 3 | 3 |
| Дуброўня р.в. | 4 | 2 |
| Круляўшчызна | 1 | 2 |
| Ліёзна р.в. | 3 | - |
| Лепель р.в. | 1 | - |
| Міёры р.в. | 6 | 5 |
| Наваполацк гор. | 17 | 18 |
| Ворша гор. | 12 | 9 |
| Полацк гор. | 42 | 42 |
| Паставы р.в. | 4 | 5 |
| Расоны р.в. | 2 | - |
| Сянно р.в. | 1 | 1 |
| Талочын р.в. | 3 | 2 |
| Ушачы р.в. | 1 | 1 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 3 |
| Шаркоўшчына р.в. | 14 | 11 |
| Шуміліна р.в. | 2 | 2 |
| **Усяго:** | **205** | **139** |
| **Менская вобласць** | | |
| Беразіно р.в. | 5 | 3 |
| Барысаў гор. | 9 | 12 |
| Вілейка гор. | 8 | 4 |
| Валожын гор. | 20 | 12 |
| Дзяржынск р.в. | 6 | 2 |
| Жодзіна гор. | 10 | 7 |
| Клецк р.в. | 14 | 2 |
| Крупкі р.в. | 1 | - |
| Капыль р.в. | 1 | 1 |
| Лагойск р.в. | 4 | 3 |
| Любань р.в. | 4 | 4 |
| Менск гор. | 508 | 368 |
| Менск РВПС | 10 | 2 |
| Маладэчна гор. | 27 | 19 |
| Мядзель | 9 | 8 |
| Пухавічы РВПС | 21 | 14 |
| Нясвіж р.в. | 2 | 1 |
| Смалявічы р.в. | 2 | 1 |
| Слуцк гор. | 25 | 8 |
| Салігорск гор. | 6 | 5 |
| Ст.Дарогі р.в. | - | 1 |
| Стоўбцы р.в. | 9 | 5 |
| Узда р.в. | 3 | 1 |
| Чэрвень р.в. | 7 | 5 |
| Фаніпаль | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **712** | **489** |

| | Красавік | Ліпень |
|---|---|---|
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | 1 | - |
| Брагін р.в. | 1 | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 32 | 34 |
| Гомель РВПС | - | 1 |
| Добруш р.в. | 8 | 4 |
| Ельск р.в. | 2 | 2 |
| Жыткавічы р.в. | 57 | 36 |
| Жлобін гор. | 8 | 4 |
| Калінкавічы гор. | 1 | 2 |
| Карма р.в. | 3 | - |
| Лельчыцы р.в. | 6 | 1 |
| Лоеў р.в. | 3 | - |
| Мазыр гор. | 11 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 4 |
| Нароўля р.в. | 1 | - |
| Петрыкаў р.в. | 3 | 1 |
| Рэчыца гор. | 3 | 2 |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 3 | 3 |
| Хойнікі р.в. | 2 | - |
| Чачэрск р.в. | 3 | - |
| **Усяго:** | **151** | **101** |
| **Гарадзенская вобласць** | | |
| Бераставіца | 2 | 2 |
| Ваўкавыск гор. | 13 | 14 |
| Воранава р.в. | 7 | 4 |
| Горадня гор. | 119 | 139 |
| Горадня РВПС | 35 | 32 |
| Дзятлава р.в. | 11 | 6 |
| Зэльва р.в. | 4 | 5 |
| Іўе р.в. | 5 | 1 |
| Карэлічы р.в. | 4 | 3 |
| Масты р.в. | 10 | 9 |
| Наваградак гор. | 12 | 7 |
| Астравец р.в. | 6 | 4 |
| Ашмяны р.в. | 21 | 10 |
| Смаргонь гор. | 10 | 7 |
| Слонім гор. | 13 | 12 |
| Свіслач р.в. | 3 | 2 |
| Шчучын р.в. | 7 | 7 |
| Ліда | 58 | 19 |
| **Усяго:** | **340** | **283** |
| **Магілёўская вобласць** | | |
| Бабруйск гор. | 31 | 18 |
| Бабруйск РВПС | - | - |
| Бялынічы р.в. | 1 | 1 |
| Быхаў р.в. | 2 | 1 |
| Глуск р.в. | - | 1 |
| Горкі гор. | 12 | 12 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | 3 | - |
| Клічаў р.в. | 1 | - |
| Краскаполле р.в. | 1 | - |
| Крычаў | 2 | - |
| Клімавічы р.в. | 5 | 8 |
| Касцюковічы р.в. | 16 | 1 |
| Круглае р.в. | 22 | 5 |
| Мсціслаў р.в. | - | 3 |
| Магілёў гор. | 32 | 15 |
| Магілёў РВПС | 1 | - |
| Асіповічы гор. | 14 | 9 |
| Слаўгарад р.в. | - | 2 |
| Хоцімск р.в. | 6 | - |
| Чэрыкаў р.в. | 29 | 37 |
| Чавусы р.в. | 1 | - |
| Шклоў р.в. | 3 | 5 |
| **Усяго:** | **181** | **118** |
| **Усяго па краіне** | **1821** | **1283** |

# Да ведама чытачоў

### Шаноўныя чытачы

Першыя два нумары ліпеня выйшлі на 4-х палосах. Гэты нумар таксама 4-х палосны. Справа ў тым, што ў рэдакцыю не паступілі грошы за падпіску. Вы іх занеслі на пошту, добрасумленна заплацілі, а да рэдакцыі яны не дайшлі, хаця павінны былі быць на нашым рахунку не пазней 25 чэрвеня.

Мы выказалі прэтэнзіі Лідскаму вузлу паштовай сувязі, з якім у нас заключана дамова пра арганізацыю падпіскі і высвятлілі наступнае. Практычна ні адзін гарадскі і раённы вузел паштовай сувязі не пералічыў вашых грошай у Ліду.

Раней Лідскі вузел, атрымаўшы заказы, пералічваў авансам нам свае грошы, а потым чакаў покуль паступяць грошы з раёнаў. Зараз у Лідзе вольных грошай не аказалася. Таму мы прыводзім спіс раённых і гарадскіх вузлоў паштовай сувязі, якія не пералічылі грошы і просім нашых падпісчыкаў пайсці ў тыя паштовыя аддзяленні, дзе вы падпісваліся і спытаць, чаму яны прысвоілі вашы грошы, можаце спытаць, чаму яны ўкралі вашы грошы. У сваю чаргу Старшыня ТБМ падрыхтаваў ліст на адрас Міністра сувязі.

Першыя два нумары ліпеня выйшлі ў доўг. Мы яшчэ не ведаем як выйдзе трэці, але спадзяёмся, што ён дойдзе да вас і спадзяёмся на вашую актыўную пазіцыю. Бо калі мы прамаўчым, так і будзе. На менскія рэдакцыі яны пералічваюць грошы своечасова, а на Ліду не спяшаюцца.

**Спіс гарадскіх і раённых вузлоў паштовай сувязі , якія не пералічылі грошы ў Ліду за падпіску на "Наша слова"**

Мінскі
Ушацкі
Талочынскі
Смалявіцкі
Ляхавіцкі
Драгічынскі
Быхаўскі
Ганцавіцкі
Любаньскі
Касцюковіцкі
Нясвіжскі
Круглянскі
Іўеўскі
Шумілінскі
Рагачоўскі
Сенненскі
Брагінскі
Петрыкаўскі
Камянецкі
Шаркоўшчынскі
Глыбоцкі
Міёрскі
Зэльвенскі
Воранаўскі
Лунінецкі
Капыльскі
Лагойскі
Калінкавіцкі
Ельскі
Слаўгарадскі
Веткаўскі
Браслаўскі
Чэрыкаўскі
Гомельскі
Бялынкавіцкі
Івацэвіцкі
Валожынскі
Камянецкі
Ваўкавыскі
Бабруйскі
Бешанковіцкі
Пружанскі
Чашнікаўскі
Рэчыцкі
Шчучынскі
Дзяржынскі
Дубровенскі
Гарадоцкі
Акцябрскі
Астравецкі
Добрушскі
Столінскі
Бярэзінскі
Стаўбцоўскі
Светлагорскі
Горыцкі
Дзятлаўскі
Мозырскі
Пастаўскі
Докшыцкі
Салігорскі
Чэрвеньскі
Слонімскі
Жодзінскі
Асіповіцкі
Клімавіцкі
Ашмянскі
Смаргонскі
Наваградскі
Гарадзенскі
Аршанскі
Кобрынскі
Барысаўскі
Жыткавіцкі
Маладзечанскі
Наваполацкі
Баранавіцкі
Віцебскі
Пінскі
Маларыцкі

Магчыма, пакуль выйдзе газета нехта і разлічыцца, магчыма мы некага прапусцілі, але сітуацыя на 15 ліпеня была такая, паводле звеста бухгалтэрыі Лідскага вузла паштовай сувязі.

**Рэктару Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта акадэміку Л. С. Герасімовічу**
**ад суполкі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**
**Беларускага аграрнага тэхнічнага універсітэта**

**Службовая запіска.**

Два гады таму ў нашым універсітэце спынілася выкладанне асноўных дысцыплін на беларускай мове пасля паспяховага шасцігадовага існавання беларускамоўных плыняў.

У адпаведнасці з дзейным заканадаўствам, якое прызнае раўнапраўнае двухмоўе і, улічваючы моўную спецыфічнасць кантынгенту абітурыентаў нашага універсітэта, прапануем утварыць на першых курсах буйнейшых факультэтаў беларускамоўныя плыні, што цалкам адпавядала б дзяржаўнай палітыцы ў галіне мовы.

Варта нагадаць, што шэраг агульнаадукацыйных кафедр цалкам падрыхтаваны да выкладання асноўных дысцыплін па-беларуску. Гэта датычыць, у першую чаргу, кафедр вышэйшай матэматыкі, фізікі, супраціўлення матэрыялаў, тэарэтычнай механікі, аграноміі, жывёлагадоўлі, філасофіі і гісторыі, беларускай і рускай моў і іншых.

Суполка ТБМ БАТУ падрыхтавала шэраг прапаноў па скразным навучанні студэнтаў на беларускай мове.

**Старшыня суполкі ТБМ БАТУ дац. Ю. Біза.**

**Выкладчыкі: 13 подпісаў (2 прафесары, 6 дацэнтаў,1 ст. выкладчык, 3 выкладчыкі, 1 бібліятэкар).**

МІНІСТР АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ



МИНИСТР ОБОРОНЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

220034, г. Мінск, Ул. Камуністычная, 1 — 220034, г. Минск, ул. Коммунистическая, 1

10.07.2000г. № 1/1215 на №417 ад 05.05.2000 г.

Старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

**Паважаны Алег Анатольевіч!**

У Міністэрстве абароны Рэспублікі Беларусь з вялікай увагай прачыталі Ваш ліст. Я думаю, што мы зможам пакінуць палеміку і пачаць працаваць на ніве ўсталявання беларускай мовы ў войску.

Цалкам падтрымліваю Вашу прапанову, што датычыць вайсковых статутаў. Міністэрства абароны гатова перадаць Вам тэксты вайсковых статутаў на дыскетах і просіць назначыць афіцыйную асобу з якой можна будзе працаваць у наступным. У Міністэрстве абароны за гэта пытанне адказвае начальнік аддзела вайсковай службы палкоўнік Няўзораў М.В. (тэлефон – 239-22-45).

Нягледзячы на складанасці, беларускамоўныя матэрыялы будуць друкавацца ў газеце "Во славу Родины" рэгулярна і па магчымасці часцей.

**З павагай генерал-палкоўнік А.Чумакоў.**




## Новае выданне ТБМ

Таварыства беларускай мовы ажыццявіла новае выданне. Зноў выдадзены каляндарык На гэты раз у гонар 90-годдзя з дня нараджэння Ларысы Геніюш. Які папярэдні ён выдадзены на еўрапейскі навучальны год, з ліпеня 2000 года па чэрвень 2001 года, што вельмі зручна для настаўнікаў і студэнтаў. Мастак Ігар Марачкін. Кошт - 100 руб., з перасылкай па пошце кошт - 150 руб.

Знайсці і замовіць каляндарык можна ў сядзібе ТБМ у Менску па Румянцава, 13, тэл. 2-84-85-11.

## Беларускі фестываль у Саўт Рыверы

17-га чэрвеня ў Беларускім Грамадскім цэнтры адбыўся традыцыйны беларускі фестываль. Уразіла вялікая колькасць гасцей і ветлівасць гаспадароў. Безумоўна, лепшаю часткаю імпрэзы быў канцэрт, у якім узялі ўдзел Валянціна Пархоменка, Алесь і Вольга Казакі і таксама госці з Беларусі, сп. Котаў з некалькімі сваімі выхаванцамі. Прыхільнікі спеваў спадарства Казакоў-Пархоменка маглі набыць іх апошнюю аўдыёкасету.

Латарэі, якіх было некалькі, сабралі шмат удзельнікаў. Відаць, іх прывабілі прыгожыя і каштоўныя прызы. На працягу ўсяго фестывалю ў зале грамадскага цэнтра прадаваліся беларускія сувеніры, кнігі і аўдыёкасеты.

Прыемна, што многія нью-ёркцы скарысталі гэтую нагоду, каб яшчэ раз пабыць сярод сваіх людзей, сустрэцца са сваімі знаёмымі, якія прыязджалі з ваколіцаў і нават з няблізкага Масачусэтсу.





# РОЛЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ДЭМАКРАТЫЗАЦЫІ НАШАГА ГРАМАДСТВА

Вытокі беларускай мовы сягаюць у дахрысціянскі перыяд. Упершыню славяне масава з'явіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў VII-VIII стст. Спачатку гэта былі крывічы і дрыгавічы, а потым у VIII-IX стст. да іх далучыліся радзімічы і ў невялікай колькасці валыняне. У гэты час ішлі цесныя кантакты з мясцовым балцкім насельніцтвам, у выніку якога і стварыўся новы еўрапейскі этнас са сваёй мовай і самабытнай культурай.

Паколькі славяне мелі больш высокую культуру, чым мясцовыя насельнікі, і іх было шмат, у протабеларускай мове стаў пераважаць усходне-славянскі элемент у яго мясцовай крывіцкай афарбоўцы. І гэта не дзіўна, бо славянскі саюз крывічоў быў самым моцным, і ў X-XI ст.ст.

Крывічы спачатку стварылі дзве вялікія дзяржавы – Полацкую і Смаленскую землі. Крыху пазней яны адыгралі асноўную ролю і ў стварэнні Пскоўскай рэспублікі, якая паступова набыла сваю самастойнасць ад Ноўгарада.

Вялікі ўплыў на беларускую мову, яе ўзнікненне і фармаванне зрабіла хрысціянства, што прыйшло на Беларусь з Візантыі праз Кіеў прыканцы X ст.

З гэтых трох крывіцкіх дзяржаў самай уплывовай доўгі час была Полацкая зямля, якая займала тэрыторыю, адпаведную тагачасным Баварыі ці Партугаліі.

Менавіта ў Полацку паўстала першая на нашай зямлі епіскапія і быў збудаваны ў сярэдзіне XI ст. першы велічны мураваны храм – славутая Полацкая Сафія. Гэта быў не толькі галоўны храм у краіне, але і першая бібліятэка, месца, дзе зарадзілася старабеларуская літаратура з яе першым узорам – Полацкім летапісам (Даследчыкі бачылі яго ў апошні раз у XVIII ст.).

Сярод тагачасных насельнікаў Беларусі славян і балтаў пашыраецца разам з хрысціянствам і пісьмовасць на аснове "кірыліцы", якая легла ў аснову сённяшняга беларускага алфавіту.

Неўзабаве эстафету Полацка падхапіў старажытны Тураў, дзе склалася свая пісьмовая традыцыя, а потым і Смаленск у канцы X-XI ст.ст. Хвалі ўсходнеславянскай каланізацыі з розных бакоў захліснулі Панямонне, а пасля рэгіён пазнейшай этнаграфічнай Беларусі, дзе кампактна жылі розныя балцкія плямёны. У канцы X – пачатку XI ст.ст. узнікаюць тут гарады Горадня (Гродна), Услонім (Слонім), Навагародак (Навагрудак) і Ваўкавыск. Крыху пазней на поўдні будуецца Бярэсце (Брэст), а на паўночным захадзе ў XI-XII стст. крывічы заснавалі "Крывіч-горад", альбо "Крывы гоорад", які пазней атрымаў назоў – Вільня.

У XII ст. на Беларусі плённа працавалі два вялікія ўсходнеславянскія асветнікі – Еўфрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі, працягваючы традыцыі Кірылы і Мефодзія, першых агульнаславянскіх асветнікаў. На падмурку створанага імі кірылічнага алфавіту і стараславянскай царкоўнай мовы і ўзнікла старабеларуская мова, якая ўжо на той час мела такія ўласцівыя ёй асаблівасці, як "дзэканне" і "цэканне".

У другой палове XII ст. з летапісаў паступова знікаюць згадкі пра былых крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў, і мы ўжо маем справу з прабеларускім насельніцтвам, якое спавядала хрысціянскую (з сярэдзіны XI ст. –праваслаўную) веру і займела сваю літаратурную мову. Адначасова ў вялікіх беларускіх гарадах будуюцца прыгожыя мураваныя і драўляныя храмы, узнікаюць мужчынскія і жаночыя манастыры, пры якіх працуюць ужо школы і ствараюцца рукапісныя кнігі, напісаныя на пергаменце. Умелі нашыя продкі пісаць і на бяросце. Пра гэта сведчаць берасцяныя граматы з Віцебска, Мсціслава і Смаленска.

Старабеларускую мову засвойваюць і карыстаюцца ёю не толькі мясцовыя балты, сярод якіх вылучаюцца латгалы – даннікі Полацка, але і замежныя гандляры. Пачынаючы з XIII ст. Беларусь трапляе ў зону дзейнасці Ганзейскага гандлёвага саюзу, прадстаўнікі якога мелі ў пачатку XIII ст у Полацку свой мураваны храм Святога Пятра, а ў Смаленску – круглую бажніцу – ратонду, складзеную са старажытнай цэглы – плінфы.

У другой палове XII пачатку XIII ст. бурна развіваецца Смаленская зямля. Вучылі грамаце тут, як у манастырах, так і пры княжацкім двары. Летапісцы паведамляюць нам пра адукаванасць кіеўскага мітрапаліта Клімента (разам са Смаленскім) і смаленскіх святароў Рыгора і Фамы. Смаленскі князь Раман стварыў у горадзе спецыяльныя вучэльні, дзе выкладалі настаўнікі з Візантыі і Заходняй Еўропы. Утрымліваліся гэтыя ўстановы за кошт княжацкай казны. Адным з самых вядомых тагачасных кніжнікаў сярод усходніх славян быў манах Аўрамій.

У сярэдзіне XIII ст. беларускія землі, якія амаль не зведалі мангола-татарскай навалы, захавалі сваю высокую культуру і мову, што неўзабаве запанавалі ў новай беларуска-літоўскай дзяржаве – Вялікім Княстве Літоўскім. Новая сталіца Беларусі XIII ст. горад Навагрудак быў адным з самых багатых і культурных гарадоў усходняй Еўропы. Пры спрыянні вялікіх князёў літоўскіх пашыралася беларуская мова, пісьменства і праваслаўе. Так, напрыклад, адзін з вялікіх князёў літоўскіх Войшалк заснаваў у ваколіцах Наваградка славуты Лаўрышаўскі манастыр.

У другой палове XIII і XIV ст.ст. на тэрыторыі Еўропы існавалі дзве краіны, дзе старабеларуская мова была дзяржаўнай. Гэта – Вялікае Княства Літоўскае і Вялікае Княства Смаленскае.

У ВКЛ, дзе з XIV ст. сталіцай стаў горад Вільня, старабеларуская мова стала не толькі дзяржаўнай, але паступова, разам з лацінню і верхненямецкай – мовай міждзяржаўных зносін, якую ў дыпламатычнай перапісцы выкарыстоўвалі і іншыя суседнія краіны, напрыклад, княства Валахія (сённяшняя Малдова).

З XIV па XVI ст.ст. старабеларуская мова была мовай міжнацыянальных зносін не толькі рознаплемянных насельнікаў Вільні (беларусы, літоўцы, яўрэі, немцы, а пазней і палякі), але і мовай вялікакняжацкага двара.

У гэты час па запрашэнні князя Вітаўта і яго паслядоўнікаў на Беларусь масава перасяляюцца яўрэі і татары.

Яўрэі, якія перасяляліся ў ВКЛ пераважна з тэрыторыі Германіі, размаўлялі паміж сабою на мове ідзіш, вельмі блізкай да нямецкай. Аднак на працягу ўсяго свайго існавання, да пачатку Вялікай Айчыннай вайны 1941 г., усе мясцовыя яўрэі цудоўна валодалі беларускай мовай, а некаторыя з іх, як, напрыклад, Самуіл Плаўнік (Змітрок Бядуля) нават сталі класікамі беларускай літаратуры.

Беларускія татары, якія ў асноўным бралі ў жонкі беларускіх дзяўчат і жанчын, наогул у XVI ст. страцілі сваю мову і перайшлі цалкам на беларускую, але захавалі пры гэтым сваю рэлігію – іслам. Свае свяшчэнныя кнігі "Аль-Кітабы" яны сталі пісаць пабеларуску, але арабскімі літарамі, што дазволіла навукоўцам дакладна сцвярджаць аб наяўнасці ў беларускай мове XVI – XVII стст. гукаў "Дз" і "Дж", для перадачы якіх на пісьме ў арабскай мове існуюць спецыяльныя літары.

Добра ведалі беларускую мову і насельнікі Аукштайціі і Жмудзі, дзе яна была дзяржаўнай, мовай перапіскі, суда і вайсковай справы.

У XVI – XVII стст. у сталіцы ВКЛ Вільні існаваў цэлы "Нямецкі квартал", жыхары якога заўжды ў штодзённым побыце карысталіся ў гутарцы з мясцовымі жыхарамі беларускай мовай.

Дасягнула свайго росквіту старабеларуская мова ў гэтыя часы і на тэрыторыі Смаленшчыны. У першай трэці XVI ст. тут ствараецца Аршанскае Евангелле. Прыканцы XVI ст. у Смаленску Лука Смалянін напісаў Псалтыр, рукапісную кнігу, аздобленую 175 малюнкамі-мініяцюрамі. Да нас дайшлі таксама апісанні вандровак смаленскіх манахаў і святароў канца XIV ст. у Палесціну і Візантыю.

У XV ст. Смаленская дзяржава ўвайшла ў склад ВКЛ і Смаленск стаў адным з самых значных цэнтраў беларускага летапісання. У канцы XV ст. пры двары смаленскіх епіскапаў манах Аўраамка склаў велізарны летапісны зборнік (450 старонак), які пазней атрымаў назву "Летапіс Аўраамкі". Аднак найвыбітнейшым шэдэўрам смаленскіх летапісцаў XV ст. з'яўляецца славуты Радзівілаўскі летапіс, аздоблены больш чым 600 цудоўнымі малюнкамі.

Да канца XV ст. працэс фармавання тэрыторы беларускага этнасу, яго мовы і культуры канчаткова завяршыўся. З таго часу паходзяць несмяротныя творы Францішка Скарыны. У 1588 г. Леў Сапега ў Статуце ВКЛ афіцыйна абвясціў беларускую мову дзяржаўнай. Беларусы маглі ганарыцца, што яны "не обчим языком, але своим властным права списаные мають".

Апошні росквіт беларускай мовы як сродку міжнацыянальных зносін у перыяд сярэднявечча назіраецца ў першай палове XVII ст. Па-беларуску гавораць горад і мястэчка (шматлікія гандляры і рамеснікі), пішуцца магістрацкія кнігі і службовыя паперы. Пабеларуску працуе ў штодзённай практыцы і беларуская ўніяцкая царква, якая паўстала ў 1596 годзе.

Аглушальны удар беларускай мове і культуры наносіць жахлівая вайна з Маскоўскай дзяржавай (1654-1667 гадоў), калі фізічна знішчаецца або вывозіцца ў рускі палон беларуская інтэлігенцыя, духавенства, шляхта і шматлікія рамеснікі, якія добра ўмелі дагэтуль чытаць і пісаць. Ацалелае неадукаванае сялянства ўжо не змагло захаваць літаратурную мову і дзяржаўнай мовай ВКЛ 1696 года паступова становіцца польская.

Пасля захопу беларускіх земляў Расіяй, асабліва пасля падаўленняў паўстанняў 1830-1831 гг. і 1863-1864 г.г. паланізацыя на Беларусі змяняецца татальнай русіфікацыяй і беларуская мова ў яе літаратурнай форме практычна да 1905 г. знаходзіцца пад забаронай.

Новая хваля адраджэння, стварэння і развіцця новабеларускай мовы і літаратуры прыпадае на канец XIX і XX стст. і працягваецца да нашых дзён, нягледзячы на шматлікія войны, рэвалюцыі, рэпрэсіі і падзелы этнічнай беларускай тэрыторыі на кавалкі паміж суседнімі краінамі.

У 1989 годзе паўстала грамадская арганізацыя "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны", якая аб'яднала грамадзян Беларусі і іншых краінаў свету розных нацыянальнасцяў, палітычных поглядаў і веравызнанняў у адзіныя шэрагі змагароў за захаванне і адраджэнне беларускай мовы як дзяржаўнай на Беларусі.

За дзесяць гадоў арганізацыя правяла вялікую работу па адраджэнні беларускай мовы ў дзяржаўным, грамадскім і духоўным жыцці народа. ТБМ прыняло ўдзел у падрыхтоўцы ў 1990 годзе Закона "Аб мовах у Беларускай ССР", арганізацыі кантролю за выкананнем Закона, у стварэнні "Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Рэспубліцы Беларусь" (1991). 13 сяброў ТБМ абраныя дэпутатамі Вярхоўнага Савета XII склікання (1990-1996 гг.), каля 100 – дэпутатамі мясцовых Саветаў.

Зараз структуры ТБМ працуюць у 70 населеных пунктах Беларусі, а таксама ў Расіі, Літве, Латвіі, Польшчы і Германіі. Зараз мы маем больш 7 000 актыўных сяброў і каля 10 000 прыхільнікаў.

Сябры ТБМ ужо зарэгістравалі ў мясцовых органах улады 52 рэгіянальныя арганізацыі і сабралі болей 27 тысячаў подпісаў за адкрыццё ў Беларусі Беларускага нацыянальнага універсітэта.

Першай перамогай пасля сумнавядомага рэферэндуму 1995 г., у правядзенні якога Лукашэнку актыўна дапамагала Расія, былі вынікі агульнабеларускага перапісу 1999 году.

Упершыню за апошнія 200 год сітуацыя змянілася на карысць тытульнай нацыі. Колькасць беларусаў за апошнія 10 год павялічылася на поўмільёна, а значная частка іх, болей за 86% назвала роднай мовай беларускую. Але самае галоўнае тое, што на правакацыйнае ў сённяшняй сітуацыі пытанне (калі ўлады метадычна знішчаюць усё беларускае), "на якой мове Вы размаўляеце дома, у сям'і?" – 3 700 тыс. грамадзян Беларусі назвалі беларускую мову. А гэта насельніцтва суседняй Літвы – самай вялікай прыбалтыйскай краіны. Сярод гэтых палітычных акрыленых і смелых людзей акрамя беларусаў, 156 тыс. палякаў, больш чым 40 тысяч рускіх, ёсць украінцы, татары, літоўцы і нават, азербайджанцы. Гэтыя лічбы і ёсць рэальны электарат усіх дэмакратычных сілаў Беларусі падчас дэмакратычных выбараў. Таму часы "рускамоўных" дэмакратаў – прыхільнікаў гарбачоўскай "перабудовы" – адыходзяць у нябыт.

Сябры ТБМ лічаць, што ў Законе аб выбарах павінны быць напісаныя наступныя патрабаванні:

1.Кожны кандыдат у парламент, мясцовыя выбарныя органы, і асабліва ў прэзідэнты, абавязаны ведаць мову тытульнай нацыі Беларусі і вольна карыстацца ёю падчас выбарчай кампаніі.

2.Усе перадвыбарныя матэрыялы, якія выдаюцца за дзяржаўны кошт, павінны друкавацца па-беларуску, а ў месцах кампактнага пражывання прадстаўнікоў іншых народаў – на іх родных мовах ў пэўных адсоткавых суадносінах.

3.Будучы незалежным, дэмакратычны парламент вольнай Беларусі мусіць называцца так, як ён называўся спрадвеку – Сойм. І ніякіх Палат, Палатак ці Саветаў.

Я нагадваю "агульным" дэмакратам, якія палохаюць Захад "беларускім нацыяналізмам" і выпрошваюць там немалыя гранты пад свае рускамоўныя семінары, універсітэты, газеты і ўлёткі, што карыстаючыся **толькі** рускай мовай падчас выбараў сапраўднай незалежнасці Беларусі не дасягнеш.

Мы не забылі, як дэпутаты ВС 13 склікання, якія зараз прэтэндуюць на лідэрства ў апазіцыі, вылучалі праекты аб'яднання з Расеяй, адмянялі нацыянальную сімволіку, закрывалі вочы на гвалтоўную ліквідацыю беларускай школы.

Вашыя выступы, шаноўныя "госпада", захаваліся ў газетных публікацыях і стэнаграмах і тыя 37% насельніцтва, якія падтрымалі падчас перапісу беларускасць, за Вас ужо ніколі галасаваць не будуць, нягледзячы на Вашыя прыязныя адносіны з Яўлінскім, Нямцовым і Чубайсам.

Для перамогі трэба мець не 100% галасоў электарату, а толькі 50,1%. Сярод гэтай лічбы ёсць *знакавая колькасць* – 37%.

Гэта сімвал будучай заможнай, незалежнай, дэмакратычнай Беларусі.

Шаноўнае спадарства! Адраджэнне Чэхіі пачыналася з тэатра, Эстоніі – з народнай песні, а Беларусі – з шырокага ўжывання роднай мовы. Пашырэнне беларускай мовы ва ўсіх сферах грамадскага і палітычнага жыцця будзе з'яўляцца самым яскравым прыкладам вызвалення Беларусі з абдымкаў "суседняга мядзведзя", яе поўнаму вяртанню ў Еўрапейскі Дом.

***Старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны Алег Трусаў.***
***г. Менск, 4 ліпеня 2000 г.***

P.S. Асноўныя тэзісы гэтага матэрыялу агучаны на IV Кангрэсе Дэмакратычных Сілаў.

## Генадзь Тумаш

# Лісіца з Расохі

### /казка/

*(Працяг. Пачатак у № 27)*

-10-

На крылах, здэцца, палящелі б ад звяроў
Да самай вёскі роднай, да Старых Лядоў.
А курка-паланянка здумала не жыць,
Лісе і ейным лісянятам не служыць.
Язык у ашуканкі ходзіць гладка,
А зубы хіжа шчэрыць куракрадка.
Каб абнадзеіць курку, сеў пявун бліжэй:
— Нясіся, любачка, як неслася раней.
Чакаючы яечка, будзеш сакатаць –
Пачуюць галасочак, стануць ратаваць.
Калі знясеш яечка – будзе "куд-кудах!",
Па ім нас адшукаюць, і мінецца страх.
Дадам яшчэ, што гаспадар Мікола
Тут паляваў, лес выхадзіў наўкола.
Да нораў паляўнічы завітае,
Ён думкі звера кожнага чытае.
Якраз Андрэй лісіцу бачыў у двары,
Раскажа дзядзьку – не схаваюць нас звяры.
Чубатку ўсхвалявала разважанне,
Было на пеўня ў куркі спадзяванне,
Каб ён у лесе кукарэкаў гучней,
Мо данясецца "кукарэку" да людзей ?
Як апынулася ў нары звярынай,
Не верыла, што вернуцца хвіліны,
Калі яна зноў несціся захоча,
Пачне шукаць гняздо і засакоча.
Нясушка сакатухай тою не была,
Што між курэй наўмысна сакатаць магла,
Падманваючы голасам сваім,
Яечка не чакаючы зусім.

Ліса гаворку пачала ў нары другой,

-11-

Прыйшла дадому позна з торбай не пустой,
Прынесла дзеткам уначы мышэй жывых,
І доўга, і нялёгка здабывала іх.
Кароткае магло быць паляванне,
Ды ў лесе, дзе раней прыйшло змярканне,
Не здолела схапіць за хвост цецерука
І на імшарыну вярнулася з Барка.
Цяцерку з выводкам шукала на зямлі,
Падказваў нюх, дзе птушкі толькі што былі.
Адна капала жыўнасць позна ў полі,
Шчэ дзеткі ейныя не знали волі.
Карміла дома лісянят мышамі,
А летуценні набягалі самі:
"Не буду знацца з чорнаю работай.
Навошта гэткія ў жыцці турботы ?
У полі досыць лапкамі мышэй капаць,
Цалюсенькую ночку можна будзе спаць.
Дачушкі, гаспадыні маладыя,
Мець будуць хаты, клеці не пустыя.
Курэй займее кожная красуня,
Заўсёды дзеткам знойдзецца ласунак.
У доме хай курацінка вядзецца,
Няхай радня святочна напасецца."
Далей ліліся б думкі-мары, пэўна,
Калі б звяроў не спудзіў голас пеўня.
— Ото гарланіць, каб табе зарвала ! —
Ліса з перапалоху не стрывала.
Да скону ўсё здаецца недарэку,
Што сонца дзень праспіць без "кукарэку".
Камору зараз жа праверыла сама,
Здзівілася, што гарладзёра там няма.
Пры самым выхадзе ёй трапіўся крыкун,

-12-

Паспрабаваў яшчэ гучней пяяць пявун,
Але ў лісіных лапках апынуўся ён.
Змяніла гаспадыня свой ранейшы тон,
Як не было на языку праклёнаў,
Хваліла зноўку пеўніка натхнёна,
Дачок вучыла хітрасці лісінай –
Мяняцца ў адпаведнасці з хвілінай:
— Дачушкі, словаў лепшых я не дабяру,
Як дзіўна кукарэйчык ведае пару.
Нара і ноч яму не перашкода,
Бо верх бярэ ягоная прырода.
Яна і ёсць дакладны той гадзіннік,
На свеце гэты механізм адзіны,
Гадзіннік мае назву "Кукарэку".
Спакон вякоў служыў ён чалавеку,
Няхай упершыню паслужыць мне цяпер,
Пявун хай дзякуе за гэтакі давер.

Хоць хітраваць лісе было прыемна,
Яна другое думала таемна,
Ад пеўня стала на душы трывожна,
Усё з-за "кукарэку" страціць можна.
Курэй не пакідала да світанку,
Прынесла канапелек ім уранку,
Не задрамала ранняю парою,
Бо не давалі думкі супакою:
"У вёсцы пабыла, курэй прыдбала,
Ці ж іх у добрым месцейку схавала ?.."
Пячоры барсука прыпомніла была,
Няма гасподы лепшай ад яго жытла.
Ёсць прыбіральня ў норах барсуковых,
Дзе ні ступі – парадак адмысловы.

-13-

Яшчэ ў маленстве ўлетку трапіла туды,
Засцерагалася, мусіць, маці ад бяды.
Згадала, што чужыя норы тыя
Былі тады якраз усе пустыя.
Сама аднойчы ў лесе чула ад ваўка,
Якая доля напаткала барсука:
"Ліса ляснога жыхара
І хітра выгнала з нары гаспадара.
Не ўздумаў бараніцца ні зубамі,
Ні моцнымі даўгімі кіпцюрамі,
Куды яго звярыны дзеўся нораў ?
Калі нагадзіла ў чысцюткіх норах,
Спаскудзіла на досвітку гасподу,
Не змог чысцёха вытрываць смуроду.
Панёс барсук лісіную абразу,
У свет павандраваў тады адразу,
Каб у бары старыя норы адшукаць
Ці вырыць новыя і ў новых векаваць.
Нідзе не скіраваўся да гасподы,
Такой, відаць, быў той барсук пароды."
Лісу здзівіў і спосаб, і нямарны чын,
Трывожыцца, падумала, няма прычын.
Хоць не шукала новае мясціны,
Ды знала барсуковыя сцяжыны.
У памяці яшчэ ўсплылі будовы,
Ляснога майстра-далакопа сховы,
Дамоўка-гарадок, пясчаная града,
Непадалёк ад нораў, ад жытла вада.
Згадаліся выгоды, месцейкі кутка,
Пярэбары матулі ў хату барсука,
Шчаслівае прыпомнілася лета –
Знаёмілася з навакольным светам.

-14-

Увосені свае шляхі-дарогі,
Лісу, як і ваўка, жывілі ногі.
Начной парой на ловах папацела,
Дрыжачка прабірала, трэсла цела.
Не здоўжыліся горкія ўспаміны,
Бо дажыла да светлае часіны:
Займела пеўня з курачкай-нясушкай,
Каб векаваць заможна тром дачушкам.
Здалося ёй, чакаць ужо нямнога
Куточка райскага жыцця ляснога.
Курацінка галоднай, стомленай лісе
Выразна ды багата бачылася ў сне.
Ліса, накрыўшыся ў сваім гняздзе хвастом,
Прыемны чула пах і сніла новы дом.

III

Загаманіла пра лісіцу ўсё сяло

Усе ў Старых Лядах двары, закуткі,
Нібы на крылах, абляцелі чуткі:
Надоечы ў сяле лісіца пабывала,
Курэй пад вокнамі ў Марулі ўкрала.
Усё лясная госця здумала як след,
Спатрэбіліся строі ды веласіпед.
Быў сведка гэтай явы не адзіны,
Шчэ дзед Ахрэм угледзеў хвост лісіны,
Якраз і голас даляцеў курачы,
Хоць дзед курэй вакол сябе не ўбачыў.
Калі б не хвост, нічым бы не здзівіў яздок,
Ляцела маладзіца з вёскі на Барок.
Не даў спакою хвост лісіны дзеду,
Панёс навіны ён свайму суседу,

-15-

А той дачуўся, што было ў Марулі, —
Спынілі следства на ляснэй хітрулі,
Загаманіла пра лісіцу ўсё сяло.
Сумненне нікнуць у бабулі пачало,
Хоць і пра коршака сказала ўнуку,
Як ён палюе з вышыні без гуку:
"Каршун упусціць кіпці ў курыцу свае
І пад сабою на балота прэ яе".

Бабуля неяк пабыла ў Ахрэма,
Паблізу не шукала ўжо дарэмна
Ні курачкі рабенькае, ні певуна,
Распытвала ў Андрэйкі пра лісу яна.
Зважаючы на ўнукаву гаворку,
Задумалася бабка на падворку:
"Шкада, што я не спахапілася раней,
Казаў жа пра лісу і паўтараў Андрэй,
А я, пачуўшы, не магла здаўмецца:
Украла тую курку, што нясецца,
Украла певуна таксама нездарма,
Завесці хоча, значыцца, курэй сама.
Ды я ж раней магла ўсё гэта разгадаць,
Куратніцай лісіца захацела стаць.
Цяпер шукаць куратнік трэба ейны,
А што як мае ў лесе схоў надзейны ?
Тады ж не дасць наш пошук анічога..."
Ляцелі думкі да жылля ляснога,
Сягалі ў нетры, дзе звярыных нораў шмат,
Задоўга з лесу не вярталіся назад.

А дзядзька гэтаю парою і Андрэй
Шукалі ўкрадзеных лісіцаю курэй.

-16-

Употай рушылі з сабакам на Барок,
Абнюхаў Рабчык норы, ды маўчаў грудок.
Пайшлі на Ніўна грэбляй, зноўку анідзе
Ні пуху і ні духу на лясной градзе.

Як пчолка, шчыравала бабка дзень пры дні.

Калі спяшалася ў куратнік з варыўні,
Здаўмелася, што пошук распачаты,
Што збеглі сын і ўнук таемна з хаты,
Ляжаў ланцуг з ашыйнікам на будцы.
"Дай Бог ім з куркай, з
пеўнікам вярнуцца!" –
Падумала бабуля з засцярогай,
Трывожыла далёкая дарога.
Прыйшла да селіцу ў абед па муражку,
Вачэй не зводзіла з лагчыны пры ляску.
З Краўцовага кута, зрабіўшы ладны круг,
Ішлі знаёмыя дзве постаці на луг.
Ішлі ды зніклі разам неўзабаве,
Спусціліся на кладачку ў канаве.
Бабуля чула пра мясціну тую,
Што бралі там калісь ваду жывую.
Прынёс хлапец адтуль вады жывой
І ўратаваў жыццё сястры сваёй.
На свеце доўга пажыла сястрыца,
Дала імя той рэчачцы Дабрыца.
Успомніла мінулы час бабулька,
Калі яшчэ бруілася рачулка.

Паўз доўгую канаву сын і ўнук брылі,
Вынюхваў нейчы след сабака на раллі.
Было відаць, што не ўдаліся ловы,
Паапускалі, ідучы, галовы

-17-

З прычыны, што курэй не адшукалі
І што ад рання з дому пазнікалі.
Дарма апанавала хваляванне,
Дакору сын не ўчуў пасля вяртання,
Падтрымка ўсцешыла самой матулі,
Надзею словы матчыны вярнулі:
-- На схоў натрапіць сёння не ўдалося.
А можа ўдача будзе на Расосе ?
Інакш раю, сыне, паляванне,
Быць трэба на Расосе да світання,
Паспець туды ўначы, да пеўняў трэціх,
Мяркую, шчасце ў гэтым вось сакрэце.
Унук , калі пачуў, ото быў рады,
Падскокваў ад бабулінай парады,
Аж засвяціліся ў Андрэйкі вочы,
Што пойдзе з дзядзькам на Расоху ўночы.

Назаўтра паляўнічы ўзяўся зрання
Рыштунак аглядаць на паляванне.
Пакратаў востры нож, як выняў з похвы,
Паклаў на столік клакі, кулі, порах,
Ладункі, шрот, каб набіваць набоі.
— У лес не пойдзем уначы без зброі, —
Паставіў паляўнічы стрэльбу пры сцяне. -
Усю запоўніць ладаўніцу трэба мне.
Нябожа, хай цябе не прыгнятае страх,
Не бойся, стрэльба добрая ў маіх руках.
З усякім зверам ночы можам стрэцца,
Ісці па воўчых сцежках давядзецца.
Ваўкі на чалавека нападаюць,
Калі вяселле воўчае гуляюць.
Гайню ваўчыца за сабою водзіць,

-18-

Вяселле гэта трэба абыходзіць.
Збіраюцца ў Піліпаўку ваўкі,
Прышэльца разрываюць у кускі.
Далёка да Піліпаўкі, мы ўночы
Не стрэнемся з гайнёй, з вяселлем воўчым.
У нас, Андрэйка, лесу без ваўка няма,
Але паляскае зубамі ён дарма.
Каб і хацеў напасці, ды не зможа,
Ёсць чым пачаставаць ваўкоў, нябожа, —
І дзядзька даў ладуннік патрымаць. -
З запасам гэткім можна паляваць.
Хоць воўча ў лесе кожны год лінее,
Ды нораву ніколі не мяняе.
Калі абодва трапім на Расоху,
Дык хопіць чым лісіцу папалохаць.
Яшчэ рыдлёўку трэба ўзяць за варыўнёй,
Ліса схавала свой куратнік пад зямлёй.

Адкласці зборы мусілі на вечар,
На прыцемку спарадкавалі рэчы.
Калі падрыхтаваны быў рыштунак,
Паклала маці ў торбу падмацунак.
Спыніўся сын у сенцах перад ёй
У паляўнічай амуніцыі сваёй.
Дала Андрэйку бабка торбу ў рукі.
На ганку сына абняла і ўнука.
У лес не браў з сабою дзядзька ганчака,
Каб не прынаджваць да сябе ўначы ваўка.
Апоўначы распачаліся спевы,

У вёсцы першыя спявалі пеўні.
Праменнем поўні, месяца старога,
Глухая асвятлялася дарога.

-19-

Бабуля да сцяжынкі палявой дайшла,
Стаяла нерухома на краі сяла.
З пагорка сын і ўнук пайшлі ў лагчыну,
Дамоў шчэ не вярталася жанчына.
На лузе ў асацэ бясконца драч скрыпеў,
Начныя гукі заглушаў ягоны спеў
І не даваў спакою анікому,
Ніводнаму суседу лугавому.
Заўсёды толькі жоначцы драчовай
Начны спявак здаваўся адмысловым.
Згадзіцца з гэтым не маглі квакухі,
Але драча балотныя пяюхі
Сваім не заглушылі дружным хорам,
Скрыпучы голас чуўся перад борам.

Кранулу Андрэйку дзядзька ў лесе за руку,
Пачуўся лопат крылаў блізка ў хмызняку,
Хлапчук прысеў, за хвою галаву схаваў.
— Андрэй, не бойся, гэта ж уначы сава
Так крыллем стукае, нібыта ў ладкі б'е,
Каб сонных птушак
выпудзіць з кустоў сабе
І з лёгкае пацешыцца здабычы.
Вось крык савы, — зазначыў паляўнічы, —
Куга-куга! – нібы дзіцятка плача,
Умее ўночы голас свой іначыць.
Курняўкала, як кот, сам колькі чуў разоў,
Сава ў запасе мае многа галасоў.

Яловы лес сустрэў начной цямнотай,
Зусім не стала месячнай ясноты.
Пад сонцам нават лес яловы цёмны,
Прабіцца праз гушчар не могуць промні.

***Шаноўнае спадарства! Тым, хто зможа паспрыяць, каб дзіцячая кніжка "Лісіца з Расохі" ўбачыла свет, просім званіць у Менск па тэлефоне: 263-24-10.—ТВМ (tbm@tbm.lingvo.minsk.by) Belarusian Language SocietyThu, 22 Jun 100 16:31 +0200 GMT***

